


# Вэсткі й Паведамленьні

інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня "ПАГОНЯ"

Viestki j Paviedamleńni

Электронны адрас: viestki@mail.com
✉ P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735

№ 7 (641)
Ліпень 2019 г.


## Як у штаце Нью-Ёрк сьвяткавалі Купальле



*Здымак С. Трыгубовіча*

На гэты дзень чакала шмат людзей, што запісаліся на сьвяткаваньне. Стаўшае ўжо традыцыяй, адзначаньне Купальля ў штаце Нью-Ёрк, арганізаванае Беларуска-Амэрыканскім Згуртаваньнем "Пагоня" і суполкаю "Беларусы ЗША–Разам лягчэй", прыцягнула рэкордную колькасьць удзельнікаў. Рэгістрацыя была загадзя адкрытая на Фэйсбуку, дзе зарэгістравалася больш 120 чалавек, а сабралася больш за 200.

Традыцыя сьвяткаваньня Купальля ў Нью-Ёрку сярод найноўшай беларускай эміграцыі бярэ пачатак ад 1999 году, калі ў беларускім рэсорце Белэр-Менск адзначылі гэты старадаўні абрад. Затым з дапамогай Алены і Пятра Рыжых была знойдзеная пляцоўка ў цудоўным запаведніку Ўард-Паўнд-Рыдж на поўнач ад гораду, дзе й праводзіцца штогод нью-ёрскае Купальле. Апошнія гады асноўную ролю ў падрыхтоўцы бярэ на сябе суполка "Беларусы ЗША–Разам лягчэй" напачале з Ганнаю Шарко і Алесем Мазгавым. Надвор'е таксама паспрыяла – пасьля тыдню дажджоў было сонечна і цёпла.

Гэтым разам была распрацаваная пашыраная праграма сьвяткаваньня, усе госьці былі падзеленыя на каманды-"княствы", кожнае з якіх абрала князя або княгіню. Было 5 княстваў, па колерах, якія абралі сабе назвы: Чырвоныя –

***заканчэньне на бачыне 2***

## Марш Паняволеных Народаў




У нядзелю, **14-га ліпеня 2019 году**, адбудзецца Марш Паняволеных Народаў, што традыцыйна арганізуецца ў ліпені Камітэтам Паняволеных Народаў у рамках афіцыйна абвешчанага яшчэ ў 1959 годзе Тыдня Паняволеных Народаў – імпрэзы, якая прыцягвае ўвагу амэрыканскага грамадзтва да стану народаў, што паняволеныя камуністычнымі, а таксама посткамуністычнымі ды іншымі тыраніямі й дыктатурамі.

Беларусы ад пачатку бралі актыўны ўдзел у імпрэзах Тыдню, і цяпер, у 61-ы Тыдзень Паняволеных Народаў, яны будуць найбольш актыўнай групай.

Збор у нядзелю, **14-га ліпеня**, **а 9-й** гадзіне раніцы ля **гатэля "Plaza"** на 59-й вуліцы і 5-й авэню. Адтуль удзельнікі рушаць да **Катэдры сьв. Патрыка**, дзе адбудзецца імша за Паняволеныя Народы, а потым пройдуць Маршам да **59-й вуліцы** і павернуць убок **Калюмбус-Сыркль** і там, каля **Мэйн-Манумэнту** ў Цэнтральным парку, адбудзецца ўрачыстае адкрыцьцё Тыдня.

***Затым у Цэнтральным парку, у скарочаным фармаце пройдзе ліпеньскі сход Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня "Пагоня", прыблізны пачатак а 2-й гадзіне папаўдні.***

Пашырайце інфармацыю, паведамляйце сябрам і знаёмым!

# Чэрвеньскі сход Згуртаваньня “Пагоня”

У суботу, 8 чэрвеня, у Доме Маракоў на Мангэтане адбыўся чарговы сход Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “Пагоня”. Напачатку старшыня сп. Віталь Зайка распавёў пра дзейнасьць арганізацыі, яе кірункі, мэты і прынцыпы для тых, што ў першы раз прыйшлі на сход. Ён таксама распавёў пра нядаўнія імпрэзы арганізацыі й закрануў тыя, што заплянаваныя на бягучы год, у тым ліку сьвяткаваньне Купальля 22-23 чэрвеня, удзел у Маршы Паняволеных Народаў па Пятай авэню і прэзэнтацыю літаратурнага альманаху “Беларус” за 2019 год.

Затым у рамках рэгулярнага цыклю сэмінараў пра вучобу і працу ў ЗША, калі нашыя землякі, што дасягнулі пэўных пазыцыяў і ўзроўню ў прафэсійнай дзейнасьці, дзеляцца сваім досьведам і ведамі – выступіла сп-чня Маргарыта Ходзька, што працуе тэставальніцаю сеціўных праграмаў. Яна родам з Мазыра, распавяла пра сябе, сваё жыцьцё ў Беларусі, вучобу на Ўнівэрсытэце замежных моваў у Менску. У ЗША Маргарыта вырашыла абраць сваім полем дзейнасьці праграмаваньне, і ў пошуках месца вучобы спынілася на Флэтайран-школе (Flatiron School), навучальнай установе, што была створаная адмыслова для працягу адукацыі ў сфэры кампутараў ды інфармацыйных тэхналёгіяў (IT). Там выкладаюць праграмаваньне, досьлед дадзеных, UX/UI дызайн, тэставаньне і падобныя навукі. Школа разьмяшчацца ў Нью-Ёрку, ёсьць магчымасьць вочных і анлайн-курсаў. Навучаньне доўжацца 6 і болей месяцаў, ёсьць магчымасьці стыпэндыяў, як Карлі Кляўс-стыпэндыя для дзяўчатаў. Для тых, хто вучыцца больш году, аплата спыняецца.

Маргарыта вывучала мову JavaScript, праграмы React, Redux і паралельна мову Ruby і знайшла працу тэставальніцы (QA specialist, tester, аўтаматызатар). Мэтаю яе было стаць спэцыялісткаю па базах дадзеных, што зьяўляецца адною з найпэрспэктыўных і добра аплочваных спэцыяльнасьцяў. Вывучала мову базаў дадзеных SQL, паколькі ведала Ruby, дык карысталася зь яе аналягу ActiveRecord. Прамоўца таксама згадала, што Флэтайран-школа мае бясплатныя клясы па мове JavaScript і дапамагае рыхтаваць праекты, што пасьля выкарыстоўваюць для прадстаўленьня пры найме на працу, як частку прафэсійнага досьведу.

Маргарыта адзначыла, што вялікую ролю, акрамя прафэсійных ведаў, адыграе таксама настойлівасьць у пошуку працы і крэатыўнае пераасэнсаваньне ўласнага досьведу. Маргарыта распавяла пра досьвед пошуку працы і мэтадалёгію інтэрвію, пра іхныя этапы. Увесь комплекс інтэрвію (тэст, тэхнічная частка, інтэрвію з групаю прадстаўнікоў фірмы) можа заняць месяц і болей.

Сп-чня Маргарыта Ходзька адказала на пытаньні прысутных: чаму вырашыла зьмяніць кар'еру, якія крокі рабіць у набыцьці IT-спэцыяльнасьці, як лепш шукаць працу – праз рэкрутараў ці самастойна, што ставіць у рэзюмэ, і падобнае.

Затым у разьдзеле “Рознае” прагучэлі аб'явы і паведамленьні. Пасьля афіцыйнай часткі зацікаўленыя асобы працягнулі кансультацыі з Маргарытаю Ходзька і прысутнымі экспэртамі ў IT-сфэры, сп. сп. Зьмітром Немчыновічам і Віталём Кучынскім.

**Віталь ЗАЙКА**

## Купальле ў Нью-Ёрку

***заканчэньне з бачыны 1***

“Ярыя”, Жоўтыя – “К-мен”, Зяленыя – “Александрыя”, Сінія – “Нёман”, Фіялетавыя – “Гэта Папараць, дзетка!”

Затым прадстаўнікі княстваў бралі ўдзел у спартовых спаборніцтвах і гульнях, у пошуках скарбаў і папараць-кветкі. У гульні “Пошук папараць-кветкі”, падрыхтаванай Яўгенам Іванюком, каманды спаборнічалі, а напрыканцы, каб адчыніць куфар, спатрэбіліся ключы ад усіх камандаў, то бок, спаборніцтва перайшло ў супрацоўніцтва. А скарбам у куфры былі талеры ад беларускіх багоў, што прывезьлі з сабою беларускія эмігранты. Каманда-пераможца атрымала прыз-татэм.

Сярод іншых занятакаў былі пляценьне вянкоў і часіна беларускай мовы з Марынай Кражовай. У міжчасе ўдзельнікі сьвята маглі падсілкавацца блінамі й дранікамі. Мужчыны і хлопцы заняліся нарыхтоўкаю дроваў для вогнішча. Затым жадаючыя апрануліся ў беларускія нацыянальныя строі з калекцыі сп-ні Валянціны Якімовіч, якая падкрэсьлівае кожны раз, што ўсе мусяць быць удзельнікамі сьвята, а не гледачамі, каб адчуць адказнасьць за Купальле.

Прысутныя парамі праходзілі праз браму, ачышчаючыся вадою і заручаючыся падтрымкай містычных сілаў. Грамада абрала князя-Купаліша і Купалінку, і пасьля заходу сонца пад купальскія сьпевы яны падпалілі вогнішча, дзе стаяла жэрдка з колам наверсе, што маюць магічнае значаньне. Прысутныя сталі хадзіць карагодамі і сьпяваць традыцыйныя сьпевы, якія хараша запявала сп-ня Валянціна Якімовіч і сп. Сяржук Сокалаў-Воюш, які неўзабаве да яе далучыўся. Сьпевы падхоплівалі прысутныя. Калі завалілася жэрдка-вось з колам і перагарэла вогнішча, была спаленая выява злой багіні Мары-Марэны, а зь ёю усё дрэннае – страхі й трывогі. Прысутныя маглі нават адмыслова класьці ў кішэню Марэне цыдулкі з напісанымі непажаданымі зьявамі, каб яна іх забрала з сабою.

Затым пачаліся гульні, “Падушачка”, “Цяцерка”, “Баяры”. Падчас гульняў “нячысьцікі” скралі Купалінку, і дружына з князем-Купалішам начале кінулася на пошукі. Купалінку ўратавалі, і пачаліся скокі праз вогнішча – агонь мае ачышчальную сілу, па ўяўленьнях нашых продкаў, а вогнішча мае злучальную сілу як атрыбут котлішча, сямейнага дабрабыту.

Затым моладзь выправілася шукаць папараць-кветку. Па легендзе, той хто знайшоў яе, стане шчасьлівым і зможа разумець мову прыроды. Потым усе маглі падмацавацца стравамі й выпіць крупніку – традыцыйнага напою, што вырабляецца з 29 лекавых траваў. Напрыканцы жадаючыя паехалі купацца пры сьвятле зораў у рацэ непадалёк.

Пасьля традыцыйнага абраду адбыўся канцэрт гурта “Казінак” з энтузіязмам сустрэты моладзьдзю. Частка купальшчыкаў працягвала традыцыйныя сьпевы з В. Якімовіч і С. Сокалавам-Воюшам.

Хутка праляцела самая кароткая ў годзе ночка, і назаўтра ўсе маглі працягнуць цікавыя заняткі – наведаць клясу ёгі, прайсьці ў пешае падарожжа па прыгожым лесе з горкамі й ручаінамі, пагуляць у валейбол. Напрыканцы каманда-княства “Александрыя”, што перамагла ў спаборніцтвах, атрымала ўзнагароду ляльку-Купалінку. Яна стане сымболем нашага Купальля, і ў наступным годзе яе перададуць новым пераможцам. Удзельнікі былі захопленыя сёлетнім сьвятам і адзначалі добрую арганізацыю і цікавую праграму. Шмат каму не хацелася ад'яжджаць з гэтых прыгожых мясьцінаў.

Падзяка за добра праведзены грамадою час належыцца знаўцы фальклёру і традыцыяў Валянціне Якімовіч, арганізатарам: Ганьне Шарко і Аляксандру Мазгавому, а таксама Алене і Пятру Рыжым, Яўгену Іванюку, Марыне Кражовай, Анатолю Цяценькіну, Аляксандру Крыжу, Антону Ляпешу, Вадзіму Крывавязу, Яўгену Дзянісёнку, Паліне Усовіч, Аляксандру Туру і Міхаілу Шаўчэнку.

Спадзяёмся на працяг традыцыі і, каб наступнае сьвята было яшчэ лепшым.

**Віталь ЗАЙКА**

# Газэты “Бацькаўшчына” і “Беларус”

*Газеты “Бацькаўшчына” і “Беларус”. Выбранае / Уклад. Наталлі Гардзіенкі, Лявона Юрэвіча. Мінск: Кнігазбор, 2019. — 616 с. — (Бібліятэка Бацькаўшчыны; кн. 39; Спадчына: агледзіны).*

У Менску пабачыла сьвет выданьне, прысьвечанае найважнейшым беларускім эміграцыйным газэтам “Бацькаўшчына” (1947—1966) і “Беларус” (1950—). Гэтыя пэрыёдыкі адыгралі найважнейшую ролю ў аб’яднаньні раскіданых па розных краінах суродзічаў, фармаваньні ў іх супольнага бачаньня мінулага і сваёй місіі на эміграцыі – рэпрэзэнтаваць Беларусь на Захадзе.




З уступнага артыкулу Лявона Юрэвіча паўстае складаная гісторыя выданьня абедзьвюх газэтаў. У цяжкіх умовах лягераў Ды-Пі ў Нямеччыне, калі не было пэўнасьці, дзе ты будзеш заўтра, беларусы запачаткавалі газэту “Бацькаўшчына”. Яна стала сродкам лучнасьці ня толькі для суродзічаў у Эўропе, але й для тых, хто выяжджаў на сталае жыхарства за акіян. На некалькі дзесяцігодзьдзяў гэтая газэта, робленая адзінкамі-энтузіястамі, ператварылася ў цэнтральны сродак інфармацыі і камунікацыі для беларусаў на Захадзе. Ад 1960-х гэтую ж ролю пераняў ад “Бацькаўшчыны” “Беларус”, які пачаў рэдагаваць той самы адмысловец – Станіслаў Станкевіч. Зьмяняліся часы, рэдактары, абставіны, але газэта працягвала выконваць сваю найважнейшую ролю лучніка для суродзічаў на эміграцыі.

На старонках “Бацькаўшчыны” і “Беларуса” публікаваліся ня толькі весткі пра падзеі ў тых ці іншых асяродках, ствараючы тым самым своеасаблівую хроніку беларускага жыцьця на чужыне, але і важныя аналітычныя артыкулы, у якіх рабіліся спробы асэнсаваньня гісторыі і сучаснасьці Беларусі, сусьветных праблемаў і штодзённых задачаў. Суродзічы дзяліліся ўспамінамі, вынікамі дасьледаваньняў беларускай мінуўшчыны, назіраньнямі за тым, што адбываецца навокал цяпер, спрачаліся і пагаджаліся. Шмат якія з тэкстаў, што зьяўляліся на старонках газэтаў, важныя і для сучасных беларусаў. Невялікая частка іх і прадстаўленая ў новай кнізе.

Тэксты разьмеркаваныя па тэматычных разьдзелах. У першы – “Нацыянальная ідэя” – увайшлі артыкулы Алеся Крыгі і Язэпа Каранеўскага (Станіслава Станкевіча), П. Вішнеўскага (Пётры Манькоўскага), Янкі Запрудніка. У кожным зь іх аўтары спрабуюць сфармуляваць і асэнсаваць асаблівасьці нацыянальнага бачаньня гісторыі і сучаснасьці беларусаў, задачаў нацыі на пэрспэктыву. У сьвятле сёньняшніх няспынных пошукаў нацыянальнай ідэі, тэксты эміграцыйных аўтараў XX стагодзьдзя выглядаюць надзвычай актуальнымі.

Найвялікшы разьдзел кнігі “Гісторыя” падзелены на падразьдзелы. Пачынаецца ён з рубрыкі “Дыскусія”, дзе прадстаўленая спрэчка Часлава Будзькі і Вітаўта Тумаша адносна “балцкай” тэорыі паходжаньня беларусаў. У наступным падразьдзеле “Гісторыя нацыянальнага руху” зьмешчаныя тэксты Янкі Станкевіча, Антона Адамовіча, Аляксандра Калодкі, Вінцэнта Жук-Грышкевіча і іншых, прысьвечаныя розным аспэктам беларускай гісторыі XX стагодзьдзя: ад нацыянальнага адраджэньня часоў “Нашай Нівы” да каапэратыўнага руху ў Заходняй Беларусі, ад гісторыі антысавецкай партызанкі 1920-х да беларусаў у лягерах сьмерці ў Нямеччыне ў часы Другой сусьветнай вайны. Тэксты прысьвечаныя як асобным дзеячам, гэтак і цэлым зьявам у нацыянальнай мінуўшчыне.

У падразьдзеле “Гісторыя адукацыі” беларусы-эмігранты распавядаюць пра навучальныя ўстановы, у якіх яны атрымоўвалі адукацыю: Віленскую беларускую гімназію (Натальля Арсеньнева), беларускую гімназію ў Наваградку (Аляксандар Орса), гандлёва-адміністрацыйную школу ў Баранавічах (Юзэфа Найдзюк), адміністрацыйна-гандлёвую школу ў Маладзечна (Аляксандар Калодка і Міхась Лужынскі). Гэтыя згадкі-ўспаміны былых вучняў уяўляюць сабою важныя сьведчаньні пра дзейнасьць згаданых установаў, карысныя для дасьледчыкаў гісторыі нацыянальнай адукацыі.

Яшчэ адзін цікавы падразьдзел у кнізе прысьвечаны гісторыі самой эміграцыі. Тут можна знайсьці тэксты пра беларусаў у Празе і Варшаве, Афрыцы і Францыі, пра пачаткі беларускай эміграцыі ў ЗША ды паасобных дзеячаў, прыкладам, Базыля Сьвятаполк-Мірскага ды Пётру Сыча.

Перагукаецца з разьдзелам “Гісторыя”, наступны – “З былога”, дзе зьмяшчаюцца ўласна ўспаміны, сярод якіх асабліва цікавыя – Натальлі Орсы пра знаёмства з Купалам і навучаньне ў Празе ды Іны Рытар (Саковіч) пра ўдзел у археалягічнай экспэдыцыі ў 1930-х гг.

У разьдзеле “Культура” можна знайсьці і аповеды-згадкі пра асобных дзеячаў: Усевалада Ігнатоўскага, Пётру Бузука, Вальтара Егера, Уладзімера Хадыку, Міхася Клімковіча, гэтак і моўныя дыскусіі Янкі Станкевіча і Антона Адамовіча, рэцэнзіі на кнігі, спробы асэнсаваньня культурнай спадчыны беларусаў.

Пад адмысловай рубрыкай “Завяртанцам” сабраныя тэксты завочных дыскусіяў Юркі Віцьбіча з падсавецкімі аўтарамі, ягоныя водгукі на публікацыі друку БССР, аздобленыя ўспамінамі і ўласнымі досьледамі пісьменьніка.

Разьдзел “Мясьціны і мястэчкі” ўтрымлівае артыкулы, прысьвечаныя канкрэтным населеным пунктам Беларусі: Бярозе Картускай, Нягневічам, Залесьсю, Смаргоні, Ашмянам і інш. А ў рубрыцы “Літаратура” зьмешчаныя малавядомыя ў Беларусі творы Пётры Сыча “Каляды на чужыне” ды “Лёрэтанскія званы”.

Завяршае кнігу тэкст пра архівы газэтаў “Бацькаўшчына” і “Беларус”, частка якіх сёньня захоўваецца ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва.

Асноўная ідэя прадстаўленай кнігі палягае ў тым, каб ня толькі прадставіць чытачам важныя і актуальныя сёньня тэксты эмігрантаў, але і зацікавіць дасьледчыкаў і аматараў у далейшым вывучэньні наратыву эміграцыі, увядзеньні ў нацыянальны дыскурс інтэлектуальнай спадчыны замежных суродзічаў.

**Н. Г.**

# “Галгатня пра ЗыШыА”

## Freak show

Фрык-шоў мае свае карані ў Эўропе, але сапраўдны апагей такога роду жывыя выставы дзівакоў зазналі ў Амэрыцы. Тут можна згадаць Амэрыканскі музэй Барнума, які актыўна дзейнічаў у Нью-Ёрку ў 19-м стагодзьдзі і доўгія гады зарабляў паказваючы гледачам розныя формы дзівацтва. Фрык-шоў – гэта такі вандроўны цырк, у якім выстаўлялі напоказ людзей з размаітымі мутацыямі. Дзякуючы фільму Дэйвіда Лінча, напэўна, найбольш вядомым мутантам у гісторыі стаў чалавек-слон, які жыў у Лёндане ў канцы 19-га стагодзьдзя. Пачалося ж усё яшчэ нашмат раней, з братоў Калёрэда, адзін з якіх быў мёртвым паразытуючым блізьнюком, які проста выставаў зь цела брата. У фрык-шоў паказвалі таксама карлікаў, веліканаў, людзей з двайным наборам палавых органаў, інвалідаў, хворых з рэдкімі дыягназамі, прадстаўнікоў іншых расаў, якія ў той час былі дзіковінкаю.




У такім фрык-шоў бралі таксама ўдзел і вядомыя беларусы. Напрыклад, Фёдар Махноў з-пад Віцебску, які неафіцыйна лічыцца найвышэйшым (2,65 м) чалавекам на сьвеце, аб’ехаў з вандроўным цыркам палову Эўропы. Дарэчы, у вёсцы Малыя Летцы ўжо другі раз пасьпяхова правялі такі своеасаблівы фрык-фэст “Волаты Прыдзьвіньня”.

Традыцыйныя фрык-шоў, як культурная зьява, вымерлі яшчэ да Другой сусьветнай вайны, але моцна выявіла сябе ў сучасных тэле-шоў і шоў-бізнэсе ў цэлым. Праграмы ток-шоў, радзімаю якіх можна лічыць Амэрыку, цешацца з герояў тыпу “баба з барадою”, на від якіх запрошаныя ў студыю госьці пачынаюць вохаць і ахаць ад зьдзіўленьня, або ад абурэньня. Элемэнты фрык-шоў таксама прысутнічаюць у гэй-парадах і наскрозь праелі таксама сучаснае кіно, пэрформанс і іншыя формы так званага сучаснага мастацтва.

Быць фрыкам цяпер ужо ня сорамна. Быць фрыкам модна. Дзівацтва можа нават цалкам падмяняць асабовасьць. Чалавек можа ўсьведамляць сябе не як людзкая істота, а як дзівак. Гэта сёньня заахвочваецца, гэта сёньня насаджваецца як норма.

А беларусы? Беларусы больш за ўсё цешацца зь беларускамоўных замежнікаў. Ай як прыгожа па-беларуску тараторыць, ай як пекна! Трэба яго паказаць грамадзе, зладзіць сустрэчу, выцягнуць на сцэну. Хай беларусы палюбуюцца. Хай пасаромееюцца, што самыя так сваю родную мову ня ведаюць. У беларусаў фрык-тэатар са сваімі, так бы мовіць, асаблівасьцямі разьвіцьця...

**Віталь ВОРАНАЎ**

---

*Віншуем* ***Паўліну і Віталя Воранавых*** *з нараджэньнем дачкі* ***Б’янкі****. Хай расьце здаровай і разумнай на радасьць бацькам.*



---

**Уплаты ў Згуртаваньне**
**Складкі й ахвяраваньні:**

Я. Ахрэмчык ............ 60
С. Мядзьведзеў .......... 60
В. Недагрэенка .......... 60
П. Сікорскі .............. 60

**Усім шчыры дзякуй!**

---

**Уплаты ў Згуртаваньне “Пагоня” шліце на адрас:**

***P. O. Box 572***
***New York, NY 10113***

**Чэкі, калі ласка, выпісвайце на імя скарбніка “Пагоні”** ***Viktar Yedzinovich.***

---

## Наступны сход

**Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “ПАГОНЯ”**

адбудзецца ў нядзелю **14-га ліпеня 2019 году** ў **Цэнтральным парку** на Мангэтане і пройдзе ў скарочаных фармаце адразу пасьля заканчэньня афіцыйнай часткі адкрыцьця Тыдня Паняволеных Народаў.

*Глядзіце абвестку на бачыне 1.*

-------------------

На штомесячных сходах арганізацыі можна таксама аплаціць сяброўскія складкі і падпіску на інфармацыйны бюлетэнь.

-------------------

*Аб месцы і часе правядзеньня імпрэзаў, ладжаных Згуртаваньнем “Пагоня”, можна даведацца наведаўшы старонку ў Фэйсбуку* ***https://www.facebook.com/groups/134811029970802/***

---

**Ахвяравалі на выданьне бюлетэня *Весткі й Паведамленьні*:**

Я. Запруднік ............ 30
В. Кіпель ............... 30
С. Мядзьведзеў ......... 30

**Шчыры дзякуй!**

---

*Падпісацца на бюлетэнь можна даслаўшы ў рэдакцыю аплату гадавой падпіскі (**$30**) на адрас:*

***Marat Klakotski***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***

*Чэкі выпісвайце на імя скарбніка “Пагоні”* ***Viktar Yedzinovich****.*

---

***Шаноўныя сябры!*** *Калі ласка, своечасова абнаўляйце падпіску на “Весткі й Паведамленьні”.*

*Стан падпіскі глядзіце на канвэрце справа ад прозьвішча.*